# МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА

15траўня 2006 г. №4(12)

Грамадска - інфармацыйнае выданьне Мастоўшчыны

+ дайджэст




*Лідэр дэмакратычных сілаў - **Аляксандр Мілінкевіч** быў арыштаваны на 15 сутак 27 красавіка за правядзеньне “Чарнобыльскага шляху”. Праваабарончая арганізацыя “Міжнародная амністыя” прызнала А. Мілінкевіча вязьнем сумленьня.*

## АД РЭДАКЦЫІ

***Паважаныя і дарагія чытачы!***

Даруйце, калі ласка, што мы не сустракаліся з Вамі на старонках нашага выданьня апошнія некалькі месяцаў. Справа ў тым, што за час прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі на актыўных людзей нашага з Вамі горада абрынуліся вельмі жорсткія і дагэтуль нечуваныя рэпрэсіі. Шматлікія затрыманні міліцыяй, выклікі на прафілактычныя размовы, штрафы, шантаж, пагрозы й ціск у бок нашых сваякоў і родных, а таксама хлуслівыя абвінавачаньні ў судах.

На вялікі жаль, разумеем, што не па сваёй воле мастоўская міліцыя і іншыя сілавыя структуры былі вымушаны займацца палітычным сыскам і хлусіць у якасьці сьведкаў у судах. А суды выносілі свае спушчаныя кімсьці зьверху прысуды, не зважаючы на сумленне й закон. Падчас гэтай выбарчай кампаніі стала яўным тое, пра што Мы даўно здагадваліся “Закон што дышло, куда повернул, так и вышло”.Неглядзячы на крымінальны перaслед, ціск і запужваньне, суды, адміністрацыйныя камісіі, штрафы, арышты і выключэньні з універсытэтаў, а таксама звальненьні з працы МЫ ВЫЖЫЛІ! Выстаялі і гатовыя надалей несьці вольнае слова ў Вашыя дамы і кватэры. Распавядаць пра грамадзкае і палітычнае жыцьцё Мастоўшчыны. ***СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ ёсьць!!!І за яе варта змагацца!***

**Рэдакцыйная калегія “Мастоўскай праўды”**

## АБ’ЯВА

Паважаны чытач!

Ты трымаеш у руках чарговы нумар грамадска- інфармацыйнага выданьня Мастоўшчыны “Мастоўская праўда”.

Калі Вы і надалей хочаце атрымліваць выданьне ў сваю паштовую скрыню дашліце, калі ласка, sms паведамленьне на нумар **+48 514 49 19 24.** Пазначце у сваім sms адрас, на які Вы хочаце атрымоўваць “Мастоўскую праўду”.

Кошт sms 110 рублёў.

# Шлях да СВАБОДЫ

*Вікторыя Салей*



***Калі я вырашыла актыўна змагацца з рэжымам?*** Магчыма тады, калі менавіта на сябе адчула яго ціск. А можа яшчэ раней, калі пасля прагляду навінаў па БТ захацелася выкінуць тэлевізар? Або пасля пачутых на вуліцы размоваў простых людзей аб “існаваньні ў краіне цудаў”. І той страх, што пануе навокал...

***А я проста стамілася баяцца.*** Калі не баішся Ты, пачынаюць баяцца Цябе. Таму і забараняюцца незалежныя сродкі масавай інфармацыі, таму не рэгіструюцца арганізацыі, таму зьяўляецца ўсё больш і больш палітвязьняў.

А 19 сакавіка павінны быць выбары... Гэта ўжо гісторыя. Гісторыя якая заставіла пасьля сябе шмат пытаньняў. Вынік быў вядомы далёка да гэтага мерапрыемства. Былі патрэбны толькі доказы, каб сказаць : “Людзі, вас зноўку падманулі...”

І вось грамадскую ініцыятыву “Партнёрства” аб'явілі тэрарыстычнай. На справе, мэта дзейнасьці “Партнёрства”- незалежнае назіраньне за працэсам і ходам выбараў. Навошта нешта незалежнае? Не! Толькі не ў Беларусі! Хто не згодны - тэрарыст. ***Будзьце асцярожныя ўсе, у каго ёсьць фотаздымкі Мастоў ды раман Чака Паланіка “Байцоўскі клюб”. На восьмай старонцы рэцэпт бомбы. Калі аб'яднаць усё ў адно, можна сьмела казаць аб вашым намеры ўзарваць горад.*** Смешна? Не да сьмеху. (глядзіце “Зару з-над Нёмана” й прыклад з грамадзянінам П.)

14 студзеня мяне выклікалі ў пракуратуру. Дзіўна й не зразумела. Гэтая сустрэча і паклала пачатак усяму. Запалохваньне і шантаж. Спачатку думалася, што ўсё ідыёцкі жарт.

Я сапраўды ня ведала, што раблю ў кабінеце з чалавекам, які абвінавачвае мяне ў шпіянажы (!) і пагражае турмой. Гэта не кіно - рэчаіснасьць. Потым прынесьлі павестку зьявіцца ў міліцыю. А там не разумеюць нават, па якой справе выклікалі. Ужо выдумвалі на месцы.

Кола закруцілася. У хуткім часе маці і бацька па голасу пачалі пазнаваць супрацоўнікаў сьпецслужбаў, калі тыя тэлефанавалі на хатні нумар. Родныя пераносілі ўсё нашмат цяжэй, чым я сама, асабліва шкада бабулю. ***Вярнуўся страх сталінскіх часоў. Яна плакала і малілася, а словы “ўсё будзе добра” не супакойвалі. Размаўляць па тэлефоне было нельга. Ды і зараз ўсё праслухоўваецца.***

Далей званкі на працу, размовы з загадчыцай, як жа бяз гэтага. Трэба на ўсіх навесьці страху, нават жаху! Хай дрыжаць і робяць вынікі. Няхай ведаюць, хто ў хаце гаспадар! Вось у такой атмасферы і пачынаюць зьяўляцца ў кабінетах выразаныя з “Савецкай Беларусі” партрэты.

Напружаньне расло. Аб назіраньні ўжо і не было размовы. Ноччу кашмары з пачварамі з КГБ, днём чуткі і плёткі на працы, ды зьвесткі аб новых арыштах,ператрусах і канфіскацыях.

Так жыць немагчыма ! Павінны жа адкрыцца вочы ў людзей! У мяне не было іншага выйсьця. Хопіць цярпець падман і брыдоту “вертыкальшчыкаў”! Час стаць на шлях справядлівасьці, розума і свабоды. Нельга даваць крыўдзіць Радзіму! Нельга жыць ў дзяржаве, дзе з неабыякавых людзей робяць злачынцаў, а злачынцы ходзяць на волі, ні ў чым сабе не адмаўляючы. Нельга жыць ў дзяржаве, дзе пануе страх, дзе баяцца выказаць свае погляды, а аб палітыцы прынята казаць у паўголасу. Нельга жыць ў дзяржаве, дзе палова насельніцтва носіць форму, а форма не робіць павагі тым, хто яе носіць.

Працяг на с. 2

## Зноў прымус

З крыніцаў МП ў Мастоўскім райвыканкаме стала вядома, што раённая ўлада абавязала кіраўнікоў некаторых прадпрыемтваў і ўстановаў горада прымусіць сваіх падначаленых прыняць удзел у дэманстрацыі, прысьвечанай Дню перамогі. Таксама было настойліва рэкамэндавана набыць кожнаму з ўдзельнікаў па чырвона-зялёнаму сьцяжку і трымаць гэты сьцяжок на працягу ўсяго мерапрыемства ў руках.

**А.З.**

# Шлях да СВАБОДЫ

Працяг. Пачатак на с. 1

Нельга жыць ў дзяржаве, дзе з экранаў тэлевізараў ільецца паток бруднай хлусьні, праслаўленьне "месіі" са зьместам антыхрыста. Нельга жыць ў дзяржаве, дзе суседзяў, Захад зрабілі ворагамі і працягваюцца пошукі ўнутраных ворагаў.

Проста ў сэрцы балючка стала. Хацелася аддаць усе свае сілы за перамены, хацелася, каб людзі задумаліся.

Я павінна была быць там, на плошчы Кастуся Каліноўскага (Кастрычніцкай) разам з людзьмі, якія стаміліся жыць у балоце, сядзець кожны на сваёй купіне ды слухаць "найчэснейшага", распавядаючага аб тым, што мы жывем у найлепшым месьце ў сьвеце; з людзьмі, якія імкнуцца да цывілізаванай краіны; зь людзьмі, якія хочуць ганарыцца сваёй нацыяй, маюць чалавечую годнасць. З тымі, хто людзьмі завецца!

Аб маім жаданні ўжо ведалі й КГБ і міліцыя. Тэлефоны ж праслухоўваюць круглыя суткі. Таму й прыйшлі на працу. Але я ўжо была ў дарозе. Хвалявалі думкі аб рабоце: мне адмовілі падпісаць заяву на адпачынак. Хто там пытаўся, як парушаюцца правы чалавека у Мастах?

Вырашаўся лёс Беларусі, зьявіўся шанец стаць на шлях дэмакратыі, вярнуць павагу іншых краін, вярнуць сваю гісторыю, якой можна ганарыцца й трэба ганарыцца. У нас былі мужныя продкі. Я верыла, што Беларусы абудзяцца ад сьпячкі, зразумеюць усю тупіковаць дзяржаўнага курсу, скінуць з сябе аковы чырвонай-зялёнай прапаганды й ідэалёгіі, раскрыюцца вочы на афіцыйныя СМІ, што сумленьне нарэшце прачнецца. З раніцы 19 сакавіка прышло сапраўднае хваляваньне, сэрца білася як шалёнае, у галаве думка: ці выйдзе народ на плошчу, ці дастаткова сьмеласьці й павагі да самых сябе? Альбо навязаны менталітэт возьме сваё?

Людзі выйшлі й нас было не тры тысячы як абвесьцілі па БТ. Я падлікамі не займалася, але лічба трыццаць тысяч выглядала б куды больш рэальна. А калі мець на ўвазе тое, што з рэгіёнаў многія проста не маглі дабрацца да сталіцы, апазіцыя ў гэты час займала турэмныя камеры па ўсёй рэспубліцы, студэнтаў некаторых ВНУ адправілі на канікулы ці трымалі ў інтэрнатах пад пагрозай высяленьня? ***Ну, як не сорамна казаць аб 83%, ды рабіць зь сябе Бога, пускаючы штучны сьнег на людзей?*** Ганьба! Як можна называць свой народ "вырадкамі" і "адмарозкамі". Мне брыдка за такога прэзыдэнта.

**Людзі стаялі суткамі,** адстойваючы свае права выбару. Калі ласка, ня верце таму, што паказваюць па так званаму нацыянальнаму тэлебачаньню. Не абражайце пытаньнямі, колькі заплацілі. Грошы і сумленьне розныя рэчы. А вось аб прэміях маўклівым старшыням выбарчых камісіяў можна было б і запытацца. ***У вачах аднаго з аператараў АНТ я ўбачыла сорам, але толькі на хвіліну. Ён хаваў вочы. Хутка здымалі малюнкі са сваімі акторамі-правакатарамі і зьязжалі ў пошуках паплечнікаў рэжыму.*** Трэба ж па навінах паказаць "абурэньне грамадзян". Але сапраўдныя меркаваньні ведаюць тыя, хто быў у Менску. Падыходзілі людзі, прасілі, каб мы трымаліся, каб не разыходзіліся, казалі "дзякуй" і "прабачце, што не можам застацца на плошчы з усімі".

Але, што можа зрабіць меншая частка людзей за праўду і свабоду? Вынік вядомы. Потым помста ўлады тым, хто супраць яе.

Канешне, мяне звольнілі, а цяпер ня ставяць пячатку для выезда за мяжу. Нічога: усё, што нас не забівае, -- робіць мацнейшымі. Мы будзем змагацца, мы пройдзем гэты шлях, дакажам, што умеем адстаяць свае правы нават на ўмовах бяспраў'я. **Зямлі нашай не павінна быць сорамна за дзяцей сваіх!**

# Сьцяг над мостам!



*У ноч зь 1 на 2 траўня над вісячым мостам праз раку Нёман зьявіўся нацыянальны беларускі сьцяг. Сымбаль вольнай Беларусі правісеў 2-га й 5-га траўня над Мастамі.*

# Штурм палаточного городка.

## *Заметки очевидца.*

*Денис Шейко*



В этот вечер было не сложно предположить, что будет штурм. Даже сотрудники коммунальной службы дежурили до глубокой ночи, словно стервятники, ожидая легкой поживы, после разгрома ла-геря. В 2 часа ночи было необычно многолюдно.

Власти все еще надеялись сломить нас. На площадь были направлены провокаторы из БРСМ. Они умело оскорбляли ребят, защищавших лагерь, отирали ноги о наши транспаранты, плевали и били в лица. Все их усилия пошли прахом, они так и не дождались ответа. Милиционеры с несвойственной им заботой и деликатностью увели провокаторов. В 3 часа была выключена музыка и на площадь опустилась какая-то зловещая тишина. Наверное, так бывает перед боем. Стало действительно страшно. Журналистов попросили покинуть лагерь «от греха подальше». Перед нами выстроилась в боевой ряд группа захвата из прекрасно экипированных ОМОНовцев. Многие из них усиленно работали челюстями, перемалывая странную зеленую жвачку. Энергетические пластинки для ОМОНа? По сценарию захвата у нас было несколько минут для того, чтобы мы могли «разойтись по домам». Уверяю вас, если бы даже кто-то сломался и попробовал уйти, ему бы это не удалось. ***В это время ОМОНовцы рассматривали нас с нескрываемой ненавистью. Кто-то из них выкрикивал: «Мясо, вам конец!».***

**Начался штурм.** Один из ОМОНовцев сказал соседу, указывая на меня «А давай, Вася, этого щелкнем?». Я был в первом ряду оцепления, следовательно, меня били при штурме, били и после, били, когда вели в автобус, ногами, кулаками, в лицо. Впрочем, остальным досталось не меньше. На моих глазах одному парню, вероятно, сломали ребра. У человек 4-5 лица были в крови. Нас привезли на Окрестина и продержали 4-5 часов на морозе «руки за спину». Среди нас были и женщины, и несовершеннолетние. В туалет не выводили, на просьбы не реагировали. До вечера меня держали в одной камере с 26 соратниками. Перед тем как нас стали вывозить в жодинское СИЗО, командир ОМОНовцев настоятельно рекомендовал нам игнорировать родственников, собравшихся у стен Окрестино «если вы задержите автобус, мы позже попадем домой, и соответственно будем очень злы. В этом случае мы не гарантируем вашу доставку в потребном виде». Хотя в целом после штурма былой ненависти у тех же ОМОНовцев уже не наблюдалось. ***Отдельные типы без конца смеялись над своими специфичными шутками типа «Как вам, ребята, было, когда ваши друзья выходили в туалет и не возвращались? Так это я их забирал!».*** Но это скорее по причине непроходимой природной тупости, а не от зла. Впрочем, бывало по-разному. По дороге в Жодино один особо рьяный ОМОНовец со слюной на устах повествовал о бесчинствах, которые нас, якобы, ожидают в Жодино, оскорблял девчонок. Однако в Жодино с нами обращались вполне пристойно. Нам меняли постельное белье, выводили на прогулки.

В самом начале заключения мы слепили из хлеба шахматы и шашки. Так, что уже было чем занять время, пока близкие нам не передали книги. Что-то из новостей рассказывали охранники, что-то узнавали из радиопередач. ***Спасибо радио «Столица» за песню «Уступите парню лыжню», мы приняли это как подарок.*** Но лучшим подарком для меня явилось осознание того, что в ближайшее время, я не увижу ОМОНовцев, которым никогда не смогу простить.

**Мастоўская праўда + *дайджэст***

e-mail для ліставаньня : masty.prawda@hotmail.com
Заснавальнік: дэпутат Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў : Аляксандр Зарэмбюк.
Выдавец: Цэнтр выдавецкіх ініцыятываў
Дызайн і вёрстка: Сяргей Губарэвіч
Рэдактар: Алеся Смольская
Надрукавана пры падтрымцы жыхароў горада Масты.
Выдаецца 2 разы ў месяц на беларускай і расейскай мовах.
Наклад : 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна.

**Адрас рэдакцыі: вул. Я. Купалы 1, 231600 Масты, Гарадзенская вобл., Беларусь**